М. КУЛІКОВІЧ

# КАЛЯДОЎШЧЫКІ



Выдавецтва:
Згуртаваньня Беларускае Моладзі
ў Кліўлендзе

Cleveland – 1961

Prof. M. Kulikovich



# BYELORUSSIAN CHRISTMAS SONGS




Published by:

Byelorussian Youth Ass'n in Cleveland



Cleveland - 1961



# АД ВЫДАВЕЦТВА



На просьбу шматлікіх суродзічаў , якія зьвярталіся да Праф.М.Кулікевіча, а таксама й да выдавецтва моладзі, выдаём гэты невялікі сьпеўнік з калядными песьнямі й гульнямі. Тут мы выбралі тыя песьні, якія больш папулярныя ды сьпяваліся калядоўшчыкамі на беларускіх асяродках на выгнаньні. Мы хочым прыйсьці ў дапамогу тым сябрам, якія што году абыходзяць беларускія хаты з зоркаю й калядкамі, падтрымоўваюць прыгожыя беларускія звычаі, падымаюць сьвяточны настрой, цешаць усіх роднай песьняю. Тут яны знойдуць мэлёдыю й словы, а малы разьмер выгадна насіць з сабою.

Некаторыя з калядных песьняў сягаюць у сівую мінуўшчыну, так як і само слова "Каляда". Сьвята Каляды нашыя продкі абыходзілі ў гонар бога-сонца, урачыстая сустрэча сонечнага году, калі дзень пачынае прыбываць, а сонца стане вышэй падымацца на небе. Сьвята Каляды пазьней, з прыходам хрысьціянства, зьлілося з сьвятам Нараджэньня Хрыста. На калядную тэму наш народ стварыў шмат абрадаў і звычаяў, гульняў і песьняў. Хрысьціянства унесла ў калядныя тэмы й рэлігійныя сюжэты, калядкі, што называюцца бэтлейкамі (ад слова Бэтлеем, дзе нарадзіўся Хрыстос). Бэтлейкі сьпяваюцца і ў сьвятынях. Вельмі прыгожа й маляўніча сьвяткуюцца Каляды ў Беларусі.

Калядоўшчыкі маюць заўсёды шмат прыказак, якімі вітаюць гаспадара, жадаюць плоднасьці і ўраджаю, вясёлых Калядаў і г.д.. ды й на сябе не забываюць, а напамінаюць аб Калядзе (узнагародзе) , як у песьнях, гэтак і ў прыказках.





*„РАСТВО Твае, Хрысьце Божа наш, асяяла сьвет сьвятлом Боскасьці: бо тады зоркам, як Богу, служачыя, Зоркаю навучаныя былі пакланяцца Табе, Сонцу Праўды, і ведаць Цябе, Усход з вышыняў, Госпадзі, слава Табе".*

*(Трапар Раства Хрыстовага).*



## НЕБА І ЗЯМЛЯ

Рухава

*mf*

Не- ба і зям-ля, не- ба і зям-ля ра-дас-на сьпя- ва- юць.

Ан- ге-лы сьве-ту, ан- ге- лы сьве-ту дзі-ва аб- вяш- ча- юць.

Прыпеў:

*f* Хрыстос на-ра дзі-ў-ся, Бог аб- я- ві-ў- ся, ан- ге- лы сьпя-ва-юць

*f* Хрыс- тос Бог ра- дзіў- ся, сьпя- ва- юць,

пас-туш-кі іг- ра- юць, дзі- за ,дзі- ва аб -вяш - ча- юць.

іг- ра- юць

І. Неба і зямля (2 разы) радасна сьпяваюць.
Ангелы сьвету (2 разы) дзіва абвяшчаюць.

Прыпеў: Хрыстос нарадзіўся,
Бог абявіўся,
Ангелы сьпяваюць,
Пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць.

2. У Бэтлееме (2 разы) вясёла навіна:
Чыстая Дзева (2 разы) нарадзіла сына.

Прыпеў:

3. І мы Дзіцятку (2 разы) Богу паклон дайма,
Слава на Ўзвышніх (2 разы) Яму засьпявайма.

Прыпеў:

⊗ Падобна, як званы

## А У СЬВЕЦЕ НАМ

Паволі

*mp* А у сьве-це нам на-ві-на бы-ла, Сьвя-ты Ве-чар!

*mp* Там Пра-чыс-та-я Сы-на ра-дзі-ла, Сьвя-ты Ве-чар! *p*

Ў не-бе зо-рач-кі засьвя-ці-лі-ся,
Прыш-лі муд-ра-цы па-кла-ні-лі-ся,

Зо- рач- кі засьвя-ці-лі-ся,

*p* Сьвя-ты Ве-чар!

*mp* *p* Сьвя-ты Ве-чар!

Каб забіць Дзіця, І-рад сам пай-шоў,
Ды да ясь-ляў шлях ні-як не знайшоў,

*mf* Уз-рас-ло Дзі-ця - Гасподзь Хрыстос-Бог *mp* Сьвяты Ве-чар!

Праў-ды сьвет знай-сьці Ён нам да-па-мог, *p* Сьвя-ты Ве-чар!

## ОЙ, НА МОРЫ, МОРЫ

Рухава

*mf* Ой, на мо- ры, мо- ры, ды на сі- нім, сі- нім,

*mf* Ой, ой, ой.

*f* Шчод- ры ве- ча- р, доб- ры ве- чар, доб- ры ве- чар!

Ой, на моры, моры,
Ды на сінім, сінім,
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)

Там ляжала кладка,
Ляжала кядрова,
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)

Там Хрыстова Маці
Рызы паласкала,
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)

Хто-жа гэты рызы
будзе апранаці,
Шчодры вечар,
Добры вечар! (2 разы)

Будзе апранаці
Сам Ісус Хрыстос Бог,
Шчодрывечар,
Добры вечар! (2 разы)



## УЧОРА ЗЬВЯЧОРА

Мерна

*mf* У- чо-ра зь вя-чо- ра засьвя- ці-ла зо- ра.

*mf* Учо-ра зьвячо-ра

*f* У- чо-ра зьвячо-ра зась-вя-ці-ла зо-ра, зась-вя- ці-ла зо- ра.

*f* У- чо-ра зьвячо ра зась-вя-ці-ла зо-ра, засъ-вя- ці-ла зо- ра.

*f*

Учора зьвячора (2 разы кожны радок)
Засьвяціла зора.

Зара засьвяціла-
Сьвет узьвеселіла.

Сьвет узьвесяліўся,
Хрыстос нарадзіўся.

Хрыстова ражджэньне-
Людзям на збаўленьне.

Людзі прыбягайце-
Хрыста прывітайце.

Здаровы бывайце,
Нам Каляду дайце.

Здаровы сьвяткуйце,
Дайце не шкадуйце.

## ТАМ ЗА РЭЧКАЮ

Мерна

*mf*

Ой, Там за рэч- ка- ю, там за быс- тра- ю, Ка- ля- да! Там за бы- страю, Ка- ля- да!

Там, за рэчкаю,
Там за быстраю, Каляда,
Там за быстраю, Каляда.

Ой, там Іванька
Стружа стрэлачкі, Каляда,
Стружа стрэлачкі, каляда.

Стружа,малюе,
Ў Дунай Нёман пушчае,Каляда,
Ў Дунай Нёман пушчае,Каляда.

Ляцеце, стрэлкі,
Да мае дзеўкі, Каляда,
Да мае дзеўкі, Каляда.

Няхай гатуе
Тонкі падаркі, Каляда,
Тонкі падаркі, Каляда.

Тонкі падаркі
Для мае маткі, Каляда,
Для мае маткі, Каляда.

Майму татулю
Тонку кашулю, Каляда,
Тонку кашулю, Каляда.

Мне,маладому,
З руты вяночак, Каляда,
З руты вяночак, Каляда.



## САЎКА ДЫ ГРЫШКА

I, II Рухава

III

Саў- ка ды грыш- ка ла-дзі-лі ду- ду,

Ду-ду,ду- ду, ду- ду, ду- ду, ла-дзі-лі ду- ду, ду-ду- ду.

па- ве- ся- ліц- ца зь ёй на ка- ля- ду.

ду- ду, ду- ду, зь ёй на ка- ля- ду,ду-ду.

Ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду,

Ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду,

ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду.

ду- ду, ду- ду, ду- ду, ду.

1. Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Павесяліцца зь ёй на Каляду.
Ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду,
Ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду-ду, ду.

2. Як разыйшліся музыкі, гу-га!
Зьгінула гора, зьгінула туга.
Ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, га,
Ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, ту-га, га.

3. Язэп старэнькі ёмкі ўзяўшы скрут,
Кіям на дзьверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-тут,
Ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-ту-тут.

4. - Вы сабе грайце свайго ца-ца,
Толькі ня страшце Езуса хлапца.
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца-ца,
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца-ца.

## ОЙ, КАЛЯДАЧКІ

Рухава
Пачынальнікі
mf Ой, Ка- ля- дач- кі, блі- ны ла- дач- кі,
Хор
f ой, лю- лі, лю- лі, лю- лі, блі-ны ла- дач-кі.

Ой, Калядачкі, бліны-ладачкі,
Ой, люлі, люлі, люлі, бліны-ладачкі.

Ой, Калядачкі, вы хутчэй, хутчэй,
Ой, люлі, люлі, люлі, вы хутчэй, хутчэй.

Напячэм бліноў мы з дражджэй, з дражджэй,
Ой, люлі, люлі, люлі, мы з дражджэй, з`дражджэй.

А калядныя бліны ладныя,
Ой, люлі, люлі, люлі, бліны ладныя.

Ой, Калядачкі вы вярніцеся,
Ой, люлі, люлі, люлі, вы вярніцеся.

На нас,дзеваняк, агляніцеся,
Ой, люлі, люлі, люлі, агляніцеся.

Мы Калядачкам наравіць будзем,
Ой, люлі, люлі, люлі, наравіць будзем.

Ой, на йгрышчы ўсе ды хадзіць будзем,
Ой, люлі, люлі, люлі, ды хадзіць будзем.

## ЦІХАЯ НОЧ

Апр.К.Кіслага

Павольна

pp

Ці- ха- я ноч, сьвя- та- я ноч, ўсё сьпіць сьніць даў-но,

Ці- ха- я ноч, сьвя- та- я ноч, ўсё сьпіць сьніць даў-но,

толь-кі Ма- ці сьвя- та- я ўсьцяж ці- ха ў ясь- лях лю-

толь-кі Ма- ці сьвя- та- я ўсьцяж ці- ха ў ясь- лях лю-

ля- е Дзі-ця - сьпі,Сы-но - чак ма- лы. Лю- лі,лю- лі, сьпі.

ля- е Дзі-ця - сьпі,Сы-но - чак ма- лы. Лю- лі,лю- лі, сьпі.

Ціхая ноч,
Сьвятая ноч,
Ўсё сьпіць, сьніць даўно,
Толькі Маці сьвятая ўсьцяж
Ціха ў ясьлях лкляе Дзіця-
Сьпі,Сыночак малы.
Лклі, лклі, сьпі.

А ўгары
Ўсё гарыць
Серабром зорных крыг.
Хор анёлаў пяе пастухом
Аб Дзіцяці, што будзе Хрыстом,
Сьветлай песьняй хвалы
Славяць Збаўцу зямлі.

Ціхая ноч,
Сьвятая ноч,
Ў родны край завітай,
Людзям сум і тугу разгані,
Хай-жа цешуцца ў гэтыя дні,
Ў ціхую сьвятую ноч,
Ў ціхую сьвятую ноч.



## КАЛЯДКІ БЛІЗКІ




Калядкі блізкі, каўбаскі нізкі,
Сьвяты Вечар ды калінка мая.

Калядкі сьвяты, для дзяўчат сваты,
Сьвяты Вечар ды калінка мая.

Гаспадар згадай нам каляду дай,
Сьвяты Вечар ды калінка мая.

Гаспадар ня стой, стаў літру на стол,
Сьвяты Вечар ды калінка мая.

## КАЗА

Рухава

*mf* Го- го- го ка- за, го- го- го- шэ- ра,

Го, го

дзе рож- кі дзе- ла?- На соль пра - е - ла !

*rit.*

Го-го-го каза,
Го-го-го шэра,
-Дзе рожкі дзела?
-На соль праела!

Го-го-го каза,
Го-го-го шэра,
Паварачвайся,
Не забывайся.

То на сей бачок,
То на той бачок,
То на рожачкі,
На капыцікі.

Ты каза сагнісь,
Нізка пакланісь
Гэтаму пану,
Як-бы гэтману.

Уставай, схапісь,
Гаспадыньні гнісь,
Ды чалом, чалом,
Усім гаспадаром.

Будзь, ваша, здароў,
Як рыжык бароў,
Май торбу грашэй,
Жыві раскашней.

Го-го-го каза,
Го-го-го шэра,
Дзе яна бывае-
Шчасьце вітае.

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.

Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза рагом,
Там жыта стагом.

Добры гаспадар
Падарунак дай,
Каб быць ў спакоі,
Казу пацары.

Дай шматок сала,
Каб жыта жала,
А рэшта аўса,
Наверх каўбаса.

А як добры пан,
Дасьць і мёду жбан.
Можа й гусачку,
На перакусачку.

Го-го-го каза,
Го-го-го шэра,
Павярнісь складней,
Пакланісь зграбней.

Пакланісь усім:
Старшым і малым,
Закладай рогі,
Падбірай ногі.

З хаты выхадзі,
Бяду вынасі,
Уцякай хутчэй
Ты зь людзкіх вачэй.

Папулярны на Беларусі звычай хадзіць з казой (хлапец апрануты ў вывернуты кажух з казінай маскаю), якая робіць усё тое, што сьпяваецца ў песьні.

## ЦАРОЎ СЫН, КАРАЛЁЎ

Мерна

*mf* Ца - роў сын, ка- ра- лёў, ца - роў сын
Ой, ой

ка- ра- лёў круг го- ра- да хо - дзіць,
круг го- ра- да

круг го - ра - да хо- дзіць, для канца гэй !

Удзельнікі бяруцца ў кола. Адзін з хлапцоў ходзіць у коле, каго пацалуе, дык той ідзе ў кола.

Цароў сын, каралёў (2 разы)
Круг горада ходзіць,(2 разы) Гэй!

Цароў сын, каралёў (2 разы)
Дзевак выглядаець, (2 разы) Гэй!

Цароў сын, каралёў (2 разы)
Увайдзі у горад, (2 разы) Гэй!

А стань, прыбярыся,(2 разы)
Хораша ўбярыся, (2 разы) Гэй!

Выбраў сабе дзеўку,(2 разы)
Каторую любіш, (2 разы) Гэй!

Каторую любіш, (2 разы)
Яе й пацалуеш, (2 разы) Гэй!

## СЬВЕЦЯЦЬ, СЬВЕЦЯЦЬ ЗОРАЧКІ

Мерна

*mp*

Сьве- цяць, сьве- цяць зо- рач- кі, (сьве-цяць)
зор- кі бры- лян- ціс- ты- я, (сьве-цяць)
на па- лі уз - ўзго- рач- кі,
на ля- сы ця- ні- сты- я.

I. Сьвецяць, сьвецяць зорачкі,
Зоркі брылянцістыя,
На палі, узгорачкі,
На лясы цяністыя.

2. Ціша сяньня ў вечары
На ўвесь сьвет пасьцелецца.
Залатымі шышкамі
Мы асыплем елачку.

3. Загарымся сьвечкамі
Залатымі, яснымі.
Слава Богу Ўзвышняму,
На зямельцы шчасьцейка.

## ЯШЧУР

Рухава

*mf*

1. Ся-дзіць, ся-дзіць Яш- чур, ла- ду, ла- ду,
2. Ў га- рэ- ха- вым кусь- це, ла- ду, ла- ду,


2.Ды воч-ка-мі плюш- чыць, ла- ду, ла- ду,
1.Га- рэ- шы- кі луш- чыць, ла- ду, ла- ду,
1.Ой, га- рэ- шы- кі луш- чыць, ла- ду,
2.Ой, ды воч-ка- мі плюш- чыць, ла- ду,


Ой, па- ро- шы то- чыць, ла- ду, ла- ду,


Ой, жа- ніц- ца хо- чыць, ла- ду, ла- ду,


ой
1.Бя- ры са- бе, Яш- чур, ла- ду, ла- ду,
2.Бя- ры са- бе дзеў- ку, ла- ду, ла- ду,


ла- ду, ла- ду!
Яш- чу- рок, Яш- чу- рок,
Ты ад- дай мой вя- нок,


мы- жа нож-кі па- ма- чы- лі, за вя- ноч-кам як ха- дзі- лі,


сва- е руч- кі па- ка- ло- лі,


як ір- ва- лі квет- кі ў по- лі, ой!

З крыкам і съмехам дзяўчаты выцягваюць з кола аднаго з хлапцоў (Яшчура) і садзяць яго пасярод хаты. Самі ходзяць каля яго ўкола й съпяваюць:

Сядзіць, сядзіць Яшчур, ладу, ладу,
Ў гарэхавым кусьце, ладу, ладу,
Гарэшкі лушчыць, ладу, ладу,
Ды вочкамі плюшчыць, ладу, ладу,
Ой, пароши точыць, ладу, ладу,
Ой, жаніцца хочыць, ладу, ладу,
Бяры сабе, Яшчур, ладу, ладу,
Бяры сабе дзеўку, ладу, ладу,
Ладу, ладу!

Хлапец падчас съпеву выбірае адну зь дзяўчатаў, ускаквае й зрывае зь ейнае галавы хустку. Дзяўчаты разьбягаюцца, потым зноў ходзяць колам:

Ой ты, Яшчур, Яшчур, ладу, ладу,
Сядзіш ты у жыце, ладу, ладу,
Сядзіш у пшаніцы, ладу, ладу,
Ў зялёнай ярыцы, ладу, ладу,
Дакуль-жа сядзеці, ладу, ладу,
На дзевак глядзеці, ладу, ладу,
Трэ табе жаніцца, ладу, ладу,
Каб і не спазьніцца, ладу, ладу,
Ладу, ладу!

Хлапец зрывае хустку з другой дзяўчыны. Ізноў дзяўчаты разьбягаюцца й пасьля ходзяць колам.

Сядзі, сядзі, Яшчур, ладу, ладу,
Ў гарэхавым кусьце, ладу, ладу,
Трэ цябе жаніці, ладу, ладу,
Добра падарыці, ладу, ладу,
Ці-бы то пясочкам, ладу, ладу,
Ці то персьцянёчкам, ладу, ладу,
Бяры сабе, Яшчур, ладу, ладу,
Бяры сабе дзеўку, ладу, ладу,
Ладу, ладу!

І гэтак робяць колькі разоў (паводля жаданьня) пакуль ня будуць сарваныя хусткі з усіх дзяўчатаў. Тады хлапец (Яшчур) кажа: "Годзе, годзе! Цяпер няхай дзяўчаты хусткі выкупляюць ! Даволі вам круціцца! Прасецеся, дзяўчаты!" Дзяўчаты падыходзяць да Яшчура й просяць:

Яшчурок, Яшчурок,
Ты аддай мой вянок,
Мы-жа ножкі памачылі,
За вяночкам як хадзілі,
Сваe ручкі пакалолі,
Як ірвалі кветкі ў полі, ой!

Хлапец тады кажа:

-Я вашым вяночкам жар заграбаў,
Хату замятаў,
Вяночак растрапаўся,
Па хаце раскідаўся!

Кідае хустку адной зь дзяўчатаў, якая ловіць яе й завязвае. Дзяўчаты йзноў сьпяваюць: "Яшчурок, Яшчурок, ты аддай..." З тэй-жа прыгаворкай хлапец кідае хустку іншае дзяўчыны. Перад апошняй дзяўчынай хлапец сам устае й падыходзіць да яе, але яна на яго не чакае, а, улучыўшы момант, вырывае сваю хустку з рук хлапца і бяжыць, хлапец за ёю. Дзяўчаты колам абкружаюць дзяўчыну, хаваюць яе й пяюць:

Ой ты, Яшчур, Яшчур, ладу, ладу,
Што вочкамі плюшчыш, ладу, ладу,
Што пароны точыш, ладу, ладу
Ці жаніцца хочыш, ладу, ладу,
Трэ цябе жаніці, ладу, ладу,
Добра падарыці, ладу, ладу,
Бяры сабе, Яшчур, ладу, ладу,
Бяры сабе дзеўку, ладу, ладу,
Ладу, ладу !

Дзяўчаты разрываюць кола, а хлапец хапае дзяўчыну.





## ПРЫКАЗКІ КАЛЯДОЎШЧЫКАЎ

Ці дома гаспадар?
Ці вяліш гаспадару,
Каляду засьпяваці,
Ці так Калядзе даці?

А за гэтым словам.
Сьвяткуйце здаровы
І зь сямейкаю,
Зь весяленькаю!

Судзі,Божа,гэтыя сьвяты праважаці
Ды й другіх дачакаці...

Табе, дзядзька, Каляда,
А нам давай пірага!

Мы вашага двара ды й ня мінаем,
З калядным сьвятам песьняй вітаем



# ЗЬМЕСТ





Папярэднія выданьні:

БЕЛАРУСКІ ПЕСЕННЫ ЗБОРНІК

Першы выпуск — абрадавыя беларускія сьпевы й гульні.
Другі (пяты) выпуск — патрыятычныя сьпевы для хору.

і вялікі

БЕЛАРУСКІ ПЕСЕННЫ ЗБОРНІК

Разьдзелы: зь гістарычнага мінулага; рамансы й песьні на словы паэтаў; лірычныя народныя песьні; песьні лёгкага жанру; жарты, гульні й скокі.